# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

і

## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ
## САВЕЦКІХ СОЦЫАЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК.

---

### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ
САЮЗУ ССР.

№ 7.

АРТЫКУЛЫ
197—223.

---

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР.
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# АД РЭДАКЦЫІ ВЕСЬНІКУ РАБОЧАГА І СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ САЮЗУ ССР.

На падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 27 ліпеня г. г., выдаецца афіцыяльны ўрадовы орган *«Весьнік Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту, Савету Народных Камісараў і Савету Працы і Абароны Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік»*, у якім, шляхам заканадаўчага агалашэньня, друкуюцца ўсе дэкрэты і пастановы рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР на шасьцёх мовах: расейскай, украінскай, беларускай, грузінскай, армянскай і тюрка-татарскай (арт. 34 Констытуцыі Саюзу ССР).

Маючы на ўвазе забясьпечыць усе органы Рэспублікі офіцыяльным выданьнем пастановаў і загадаў рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР і зрабіць «Весьнік» настольным надсобнікам для ўсіх установаў, Сэкратарыят ЎЦВК, ту выкананьне паданае вышэй пастановы, на пасяджэньні 17 верасьню г. г. пастанавіу прызнаць абавязковай падпіску на *«Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР»* для губэрскіх выканкамаў у колькасьці ня менш 10 экзэмпляраў, для павятовых выканкамаў — 5 экзэмпляраў і для валасных выканкамаў—1 экзэмпляр.

Дзеля паказанага, Рэдакцыя «Весьніку Ўраду» прыступіла да рассылкі вышаўшых №№ 1, 2, 3 і 4 «Весьніку» паказаным выканкамам. Што тычыцца іншых дзяржаўных органаў і установаў, дык Рэдакцыя пачне разсылку «Весьніку» толькі пасьля атрыманьня ад іх адпаведных заказаў, у якіх павінна быць паказана: 1) пэўны адрас, водлуг якога належыць высылаць «Весьнік Ўраду», 2) колькасьць выпісваемых экзэмпляраў, 3) на якой з пералічаных вышэй моваў падпісчык жадае атрымоўваць «Весьнік» і 4) на які тэрмін утвараецца падпіска.

Усе заказы на *«Весьнік Ўраду»*, а так сама і падпісныя грошы належыць накіроўваць на адрас: *Москва, Тверская, 48, Главная Контора «Известий ЦИК Союза ССР и ВЦИК»*.

Умовы перадплаты паказаны ў абвестцы, зьмешчанай на 3-й старонцы вокладкі «Весьніку».

Масква, Крэмль.

# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ,

## САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ

і

## САВЕТУ ПРАЦЫ і АБАРОНЫ

## САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

### ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ

РАБОЧАГА і СЯЛЯНСКАГА ЎРАДУ

САЮЗУ ССР

№ 7.

АРТЫКУЛЫ
197—223.

ВЫДАНЬНЕ ЦВК САЮЗУ ССР
Масква ◇ 1923 ◇ Крэмль.

# ЗЬМЕСТ.

## I.

### Пастановы і загады Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР.



## II.

### Пастановы і загады СНК Саюзу ССР.



## III.

### Пастановы і загады СПА Саюзу ССР.

# ПАСТАНОВЫ і ЗАГАДЫ
## ПРЭЗЫДЫУМУ
# Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**197. Аб вызначэньні памеру акцызных ставак на рэчы, якія абкладваюцца акцызам.**

З'іначаньнем пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 19 красавіка 1923 г. аб вызначэньні памеру акцызных ставак на рэчы, якія абкладваюцца акцызам (З. У. РСФСР 1923 г. арт. 362), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

Падаць Савету Працы і Абароны Саюзу ССР права выражаць вызначаныя цьвярдыя стаўкі акцызаў у тых ці іншых формах цьвярдога вылічэньня (чырвоннае вылічэньне і г. д.), а так сама вызначаць парадак пераводу памянёных ставак у грашовыя знакі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **Н. Нарыманаў.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

19 жніўня 1923 г.
Масква—Крэмль.
Распублікавана у № 187 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 19 жніуня 1923 г.

---

**198. Аб звальненьні экспортыруемых закардон хлебапрадуктаў ад некаторых збораў.**

У мэтах адбудаваньня экспорту хлебопрадуктаў ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

I. Зволіць хлебныя грузы, якія йдуць закардон ад спагнаньня наступных збораў:

1) Сбору у карысьць ЦК Вынікаў Голаду (дэкрэт УЦВК і СНК ад 30 траўня 1923 г. (З. У. РСФСР 1923 г. № 5, арт. 506);

2) партовага папуднага збору (дэкрэт СНК РСФСР ад 20 траўня 1921 г. З. У. РСФСР 1921 г., № 48, арт. 243).

3) мясцовага папуднага збору (дэкрет УЦВК і СНК ад 29 жніўня 1922 г. З. У. РСФСР, № 55, арт. 696);

4) параўнаўчага збору.

II. Зменшыць асобны з мэтаю збор, устаноўлены пастановою ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 27 ліпеня 1923 г. („Изв. ЦВК" Саюзу ССР і УЦВК ад 2 жніўня 1923 г.) з 3 кап. да 2,5 кап. золатам з пуду.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*За Сэкратара ЦВК Саюзу ССР* **Ф. Кон.**

10 кастрычніка 1923 г.
Масква—Кремль.
Распублікавана у № 233 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 12 кастрычніка 1923 г.

---

**199. Аб парадку абкладаньня прамысловым падаткам прадпрыемстваў галоўнага упраўленьня ваеннай прамысловасьці, цэнтральнага упраўленьня ваенных загатовак абознай маемасьці і ваеннага ведамству.**

ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Зволіць ад прамысловага падатку прадпрыемствы галоўнага упраўленьня ваеннай прамысловасьці і цэнтральнага упраўленьня ваенных загатовак абознай маемасьці вышэйшага савету народнай гаспадаркі, а таксама прадпрыемствы ваеннага ведамству (вытворчыя прадпрыемствы, утвораныя пры галоўным ваенна-гаспадарчым упраўленьні, упраўленьні сувязі чырвонай арміі, галоўным упраўленьні чырвонага паветранага флёту і упраўленьні бранявых сілаў рэспублікі), якія робяць выключна прадукцыю ваеннага характеру дзеля патрэбаў ваеннага і марскога ведамстваў.

2. Прадпрыемствы галоўнага упраўленьня ваеннай прамысловасьці, цэнтральнага упраўленьня ваенных загатовак абознай маемасьці і ваеннага ведамству, вытвараючыя часткаю прадукцыю, памянёную у арт. 1-ым, а часткаю і вырабы не ваеннага характару, падлягаюць абкладаньню толькі у месцы вытворчасьці апошніх. Пры гэтым захоўвываюцца наступныя правілы:

а) патэнты збор падлягае спагнаньню належна ліку рабочых, занятых прадукцыяй не ваеннага характару;

б) параўнаўчы збор падлягае вылічэньню у памерах, устаноўленых дзеля ваеннай прамысловасьці, толькі з абароту па рэалізацыі вырабаў не ваеннага характару як праз вольную прадажу іх і водпуск у крэдыт, гэтак і праз перадачу дзяржаве па цьвёрдым цэнам.

в) патэнтны збор за асабістыя прамысловыя заняткі служачых спаганяецца толькі з тэй колькасьці, якая занята абслугаўваньнем абкладваемай часткі вытворчасьці, занятай прадукцыяй не ваеннага характеру.

3. Прадпрыемствы, вытвараючыя выключна прадукцыю неваеннага характару, падлягаюць абкладаньню прамысловых падаткам на агульных падставах.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*За Секрэтара ЦВК Союзу ССР* **Ф. Кон.**

17 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 239 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 19 кастрычніка 1923 г.

## 200. Аб разьліку па абавязацельствам, выказаным у чырвонцах.

ЦВК і СНК Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

У ва усіх выпадках, калі разьлік па абавязацельствам, выказаным у чырвонцах, робіцца у савецкіх грашовых знаках, выплата робіцца па курсу фондавага аддзелу маскоўскай таварнай біржы, абвешчанаму дзеля вядомага месца і на дзень выплаты.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. І. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*За Сэкратара ЦВК Саюзу ССР* **Ф. Кон.**

17 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у № 239 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 19 кастрычніка 1923 г.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ
# Савету Народных Камісараў
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**201.** **Аб устанаўленьні льготнага тэрміну дзейнасьці крэдытаў водлуг бюджэту на 1922—23 бюджэтны год.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанауляе:**

1. Тэрмін дзейнасьці крэдытаў водлуг бюджэту на 1922—23 бюджэтны год прадоўжыць да 31 кастрычніка 1923 г.

2. Выдачу авансаў па ўсім бяз выключэньня каштарысным крэдытам 1922—23 бюджэтнаго году спыніць 15 кастрычніка 1923 г.

3. Рэшта авансаў, адтрыманых за рахунак каштарысных крэдытаў 1922—23 бюджэтнага году, павінна быць здана на адбудаваньне належных крэдытаў не пазьней 31 кастрычніка 1923 г.

4. Усе разьлікі з крэдыторамі казны водлуг каштарысаў 1922—23 бюджэтнага году з 1 лістападу 1923 г. рабіць з належных каштарысных асігнаваньняў па бюджэту на 1923—24 бюджэтны год.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў**
*Сэкретар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

2 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.
Распублікавана у № 233 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 12 кастрычніка 1923 г.

---

**202.** **Аб вывознай мыце на шкуры шэншыля**

Савет Народных Комісараў **пастанавіў:**

Выкласьці літару „а“ п. 1 арт. 12 мытнага тарыфу па адпускному гандлю, зацьверджанага СНК 6 сакавіка 1923 г. (З. У. РСФСР 1923 г., № 20, арт. 242) у наступнай рэдакцыі:

„а) Шкуры соболя, лісіцы сярэбрыста—чарнабурай, марскога бабра і шэншыля—з пуду 1000 руб.“

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Кіраунік Справу СНК Саюзу ССР* **Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Фоціева.**

2 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль
Распублікавана у № 233 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 12 кастрычніка 1923 г.

---

**203.** **Аб прадоўжаньні на 1-ы квартал 1923—1924 бюджэтнага году дзейнасьці пастановы СПА ад 8 чэрвеня 1923 г. аб праву некаторых органаў і установаў ВСНГ на даасігнаваньні за рахунак адлічэньняў ад прамысловасьці.**

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Прадоўжыць на 1-ы квартал 1923—24 бюджэтнага году дзейнасьць пастановы СПА ад 8 чэрвеня 1923 г. аб праву некаторых органаў і установаў ВСНГ на даасігнаваньні за рахунак адлічэньняў ад прамысловасьці (З. У. РСФСР 1923 г. № 53, арт. 527), захаваўшы дзеючыя цяпер памеры адлічэньняў. устаноўленыя на падставе памянёнай пастановы ВСНГ па згодзе НКГС і РСІ.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

6 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**204.** **Аб адпаведнасьці кіраўнікоў ведамстваў, установаў і прадпрыемстваў за становішча і працу даверанага ім апарату.**

Дзеля разьвіцьця разьдзелу і пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 6 верасьня 1923 г. аб рэарганізацыі НК РСІ саюзных рэспублік („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 6 верасьня 1923 г.), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Ускласьці на кіраўнікоў усіх бяз выключэньня ведамстваў, установаў і прадпрыемстваў непасрэдную адпаведнасьць перад дзяржавою у адміністратыўным і судзебным парадку за становішча і працу апаратаў пад'уладных ім органаў упраўленьня і гаспадаркі.

2. Даручыць НК РСІ сумесна з зацікаўленымі ведамствамі, распрацаваць больш точныя правілы і інструкцыі аб характару і межах адпаведнасьці кіраўнікоў ведамстваў, установаў і прадпрыемстваў, а раўна

і усіх асобаў, якія знаходзяцца на пасадзе за працу і становішча даверанага ім апарату.

3. Структура пад'уладных ведамствам апаратаў павінна быць такой, каб праца ніжэйшых органаў і яе вынікі знаходзіліся пад пастаяным ноглядам вышэйстаячых оргаў нажыццяўляемым у самым працэсу гэтае працы і каб кіраўнікі асобных частак, адпаведныя поўнасьцю за даручаную ім справу, мелі магымасьць непасрэднага кантролю за працай усей даверанай ім часткі. Гаспадарчыя органы, патрабуючыя адумысловых кантрольных органаў, павінны імкнуцца, перш усяго, да таго, каб у аснову пабудаваньня кантрольнага апарату ляглі прынцыпы, па якім кантрольныя функцыі уваходзілі б у агульную сыстэму апарату.

4. У выпадках, калі у заканадаўчым парадку будуць дапушчаны дзеля таго ці іншага дзяржоргану—адумысловыя—часовыя ці пастаяныя—кантрольныя або рэвізыйныя камісіі ці групы, апошнія арганізуюцца з захаваньнем максымальнай эканоміі сілаў і сродкаў і з точным паказаньнем як функцыяў, гэтак і структуры і штатов гэтых органаў. Палажэньні аб кантрольна рэвізыйных камісіях і групах падаюцца на зацьверджаньне у заканадаўчыя органы па заключэньню НК РСІ Саюзу ССР і належных наркаматаў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

6 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.
Рэспублікавана у № 242 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 23 кастрычніка 1923 г.

---

## 205. Аб дазволу, водлуг заявы укладчыка, выдачы укладау дзярджаунымі зьберагацельнымі касамі усякаму прад'яўніку зьберагацельнай кніжкі.

З мэтаю, каб даць укладчыкам дзяржаўных працоўных зьберагацельных касаў па магчымасьці лепшых выгодаў у загадзе ўкладамі, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанавіў:**

Дапоўніць палажэньне аб дзяржаўных працоўных зьберагацельных касах ад 26-га сьнежня 1922 году (З. У. РСФСР 1923 г. № 1, арт. 13) ніжэйнаступным артыкулам 15-а:

15-а. Укладчык можа заявіць касе, каб грошы па яго зьберагацельнай кніжцы выдаваліся усякаму прад'яўніку яе.

Адпаведнасьць за выдачу у такіх выпадках ляжыць выключна на самым укладчыку.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

6 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.
Рэспублікавана у № 242 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 23 кастрычніка 1923 г.

---

## 206. Аб зьдзейсьненьні палажэньня аб прыбытковым падатку з дзяржаўных прадпрыемстваў ї зьмешаных таварыстваў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Палажэньне аб прыбытковым падатку з дзяржаўных і кооператыўных прадпрыемстваў і зьмешаных таварыстваў, зацьверджанае ЦВК і СНК 20 чэрвеня 1923 г. (З. У. РСФСР 1923 г. № 61, арт. 573) зьдзейсьніць з дню апублікаваньня гэтае пастановы ў адносінах да ўсіх арганізацыяў, паказаных у арт. 1 памянёнага палажэньня.

2. Арганізацыі, памянёныя у папярэднім артыкулу, прыцягнуць у першы раз да выплаты падатку на падставе палажэньня 20 чэрвеня 1923 д. па прыбыткам за іх апэрацыйны год, пачаўшыйся раней 26 чэрвеня 1923 году і скончыўшыйся пасьля гэтага тэрміну.

3. Устанавіць, што падатак водлуг палажэньня 20 чэрвеня 1923 г. павінен выплачывацца у тэрмін не пазьней трох месяцаў з дню закончаньня опэрацыйнага году абкладваемых організацыяў.

НКГС па падачы зацікаўленых наркаматаў даецца у асобных выпадках у адносінах да асобных аб'яднаньняў або прадпрыемстваў права устанаўліваць і тэрміны больш доўгія, але ня звыш 6 месяцаў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Секратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

9 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.
Рэспублікавана у № 242 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 23 кастрычніка 1923 г.

---

## 207. Палажэньня аб адміністратыўна—фінансавай камісіі пры СНК Саюзу ССР.

1. Дзеля папярэдняга развязваньня пытаньняў не заканадаўчага характару, падлягаючых зацьверджаньню СНК і СПА Саюзу ССР, пры Саўнаркоме Саюзу ССР знаходзіцца адміністратыўна—фінансавая камісія.

2. Веданьню адміністратыўна—фінансавай камісіі падлягаюць пытаньні зьверхкаштарысных асігнаваньняў, справы аб накладаньні дысцыплінарных спагнаньняў на асобаў, лічучыхся на пасадзе, разьвязваньня рознагалосьсяў па асобным пытаньням бягучай працы паміж ведамствамі, зацьверджаньне штатаў наркамзтаў і установаў Саюзу ССР, назначэньне асобаў, якія лічуцца на пасадзе і інш пытаньні, падлягаючыя, у парадку агульнага упраўленьня, зацьверджаньню СНК і СПА Саюзу ССР па належнасьці.

Увага 1. Пытаньне аб кірунку пастановаў камісіі на зацьверджаньня Саўнаркому або СПА разьвязваецца камісіяй на падставе дзеючых законапалажэньняў.

Увага 2. Пытаньні, пералічаныя у арт. 2-м могуць ставіцца на павестку СНК і СПА і без папярэдняга разгляданьня іх у адміністратыўна-фінансавай камісіі.

Увага 3. Фінансавыя пытаньні, распрацаваныя у дзяржаўнай плянавай камісіі і маючыя заключэньне НКГС, уносяцца непасрэдна на разгляданьне СПА.

3. Адміністратыўна-фінансавая камісія складаецца з старшыні і пяці сяброў, пэрсанальна назначаемых Саўнаркомам Саюзу ССР.

4. Пасяджэньні камісіі лічуцца сапраўднымі пры прысутнасьці ня меньш 3-х сяброў у тым ліку і старшыні.

5. Парадак занясеньня пытаньняў на разгляданьне адміністратыўна-фінансавае камісіі вызначаецца палажэньнем аб парадку падгатаўленьня і праходжэньня пастановаў СНК і СПА.

6. Да разбору справаў вызываюцца дакладчыкі ад зацікаўленых ведамстваў, якія павінны быць снабжаны мандатамі за подпісам кіраўніка ведамства і выказываць офіцыяльны погляд ведамства па разглядаемаму пытаньню. У выпадку неяўкі вызваных дакладчыкаў справа можа разьбірацца у іх адсутнасьці.

Увага. У выпадку патрэбы, на пасяджэньне адміністратыўна-фінансавай камісіі вызываюцца прадстаўнікі зацікаўленых саюзных рэспублік.

7. Усе пытаньні разьвязваюцца у адмістратыўна-фінансавай камісіі простай большасьцю галасоў. Пры разьдзяленьні галасоў пароўну, пытаньне пераносіцца у СНК Саюзу ССР або СПА па належнасьці.

8. Сябры камісіі, ня згодныя з ухваленай пастановай, маюць права занясьці на паперы асобнае памеркаваньне, прыкладаемае да пратаколу.

9. Права апратэставаньня пастановаў адміністратыўна-фінансавай камісіі належыць сябрам СНК і СПА Саюзу ССР, старшыням ЦВК і Саўнаркомаў саюзных рэспублік і іх паўнамоцным прадстаўнікам, кіраўніку ЦСУ, старшыні дзяржаўнае плянавай камісіі, старшыні галоўнага концэсыйнага камітэту, старшыні камітэту унутранага гандлю, старшыні краіннага дзяржаўнага палітычнага упраўленьня (КДПУ), старшыні УЦСПС, старшыні цэнтрасаюзу. Пратэст павінен быць пададзен праз адміністратыўна-фінансавую камісію не пазьней 48 гадзін з моманту ухваленьня пастановы.

Увага. У выпадку, калі у паказаны тэрмін учыняецца пратэст ад прадстаўніка саюзнай рэспублікі, СНК Саюзу разглядае пытаньне аб пратэсту не раней, чым праз тыдзень, да якога тэрміну належны саюзны СНК павінен падаць падрабязную матывіроўку пратэсту.

10. Ухваленыя адміністратыўна-фінансавай камісіяй і не апратэставаныя у парадку арт. 9, пастановы зацьверджаюцца старш. СНК або СПА па належнасьці, пасьля чаго аотрымовываюць моц пастановаў СНК або СПА.

Старшыня СНК або СПА можа перанасіць пытаньні, разьвязаныя адміністратыўна-фінансавай камісіяй, на разгляданьне Саўнаркому або СПА Саюзу ССР.

Увага. Апратэставаныя пастановы аб зьверхкаштарысных асігнаваньня павінны быць зараз жа выкананы НКГС у тэй частцы, па якой НКГС з зацікаўленым ведамствам дасягнена згода.

11. Дзеля ажыцьцяўленьня сваіх задачаў адміністратыўна-фінансавай камісіі даецца права ускладаць на ведамствы і асобныя установы, пад адпаведнасьцю іх кіраўнікоў, дадатковую распрацоўку пытаньняў, знаходзячыхся на разгляданьні адміністратыўна-фінансавай камісіі, падгатаўку і падачу неабходных матар'ялаў, ведаў.

12. Прыняцьце мераў загаднага характару па арганізацыі працы адміністратыўна-фінансавай камісіі, разьмяркаваньне справаў дзеля дакладаў і іншых абавязкаў паміж сябрамі камісіі, запатрабаваньне ад саюзных рэспублік, ад ведамстваў і усіх установаў Саюзу рознага роду матар'ялаў, ведаў, а таксама разьвязваньне усякіх справаў па выкананьню загадаў СНК, СПА і адміністратыўна-фінансавай камісіі—робяцца старшынёй адміністратыўна-фінансавай камісіі, загады якога абавязковы як для сяброў адміністратыўна-фінансавай камісіі, гэтак і дзеля усіх установаў і асобаў Саюзу ССР, якія лічуцца на пасадзе.

13. Пры адміністратыўна-фінансава камісіі знаходзіцца сэкратарыят дзеля падгатоўкі справаў да разбору, веданьня і выкананьня пратаколаў пасяджэньняў, а таксама выкананьня даручэньняў старшыні камісіі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гербуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

9 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**208. Аб прымусовым разьмяркаваньні дзяржаўнай 6% выйгрышнай пазыкі паміж асобаў, маючых вялікія прыбыткі.**

У дадатак да пастановы сваей ад верасьня 1923 г. аб прымусовым разьмяркаваньні дзяржаўнай 6% выйгрышнай пазыкі паміж багатымі каламі насельніцтва („Изв." ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 7 верасьня 1923 г.), Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Незалежна ад абавязку, ускладзенага на плацельшчыкаў прыбытковага падатку, згодна пастанове ад 4 верасьня 1923 г. плацельшчыкі паказаных ніжэй разрадаў павінны што месячна у тэрміны, якія будуць назначаны НКГС, здабываць у належным фінансавым аддзелу на агульных умовах, паказаных у пастанове 4 верасьня 1923 г., наступную колькасьць аблігацыяў дзяржаўнай 6% выйгрышнай пазыкі:

а) плацельшчыкі аднесеныя па плацяжу прыбытковага падатку па шкале, зацьвердж. ЦВК і СНК Саюзу ССР 27 ліпеня 1923 г. („Изв." ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 29 ліпеня 1923 г.):

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Да 10 | разраду.— | дзевяць | абліг. | 5 руб. | вартасьці. |
| „ 11 | „ | дванаццать | „ | „ | „ |
| „ 12 | „ | шэснаццать | „ | „ | „ |
| „ 13 | „ | дваццать | „ | „ | „ |
| „ 14 | „ | дваццать пяць | „ | „ | „ |
| „ 15 | „ | трыццать | „ | „ | „ |
| „ 16 | „ | трыццать пяць | „ | „ | „ |

плюс пяць аблігацыяў на кажныя 500 р. паўгадавога прыбытку зьверх 4000 рубл.

2. НКГС даецца устанавіць парадак здабыцьця плацельшчыкамі аблігацыяў з тым, каб на іх рабілася паметка аб забароне прыняцьця іх у залог і котыраваньня на біржы.

Увага. Накладваемая, згодна арт. 2, забарона захоўвывае моц да 1 студзеня 1925 г. Гэты ж тэрмін пашыраецца і на аблігацыі якія разьмяркоўваюцца у парадку пастановаў ад 4 верасьня 1923 г. аб прымусовым разьмяркаваньні пазыкі паміж багатымі каламі насельніцтва („Изв." ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 7 верасьня 1923 г.) і ад 18 верасьня 1923 г. аб прымусовым разьмяркаваньні пазыкі паміж прыватнымі падрадчыкамі, дастаўнікамі і камісіанэрамі („Изв." ЦВК Саюзу ССР і УЦВК ад 28 верасьня 1923 г.).

3. Ухіленьне ад выкананьня гэтае пастановы прыраўніваецца да ухіленьня ад выплаты дзяржаўных падаткаў і збораў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**

*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

9 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 209. Назначэньні.

1.

Пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 9-га кастрычніка г. г. зацьверджан сябрам рэўваенсавету Саюзу, ССР замест т **Візірэва**, тав. **Караеў А. Г.**

2.

Пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 9-га кастрычніка 1923 году зацьверджан гандлёвым прадстаўніком у Польшы тав. **Мяскоў К. Г.**

3.

Пастановаю Савету Працы і Абароны Саюзу ССР ад 29 верасьня г. г. тав. **Баранаў П. І.** зацьверджаны намесьнікам старшыні савету грамадзянскай авіяцыі.

4.

Пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 13-га кастрычніка г. г. зацьверджаецца намесьнікам старшыні галоўнага концэсыйнага камітэту тав. **Літвінаў М. М.**

5.

Пастановаю Совету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 13-га кастрычніка г. г, зацьверджаецца у калегію народнага камісарыяту рабоча-сялянскай інспэкцыі Саюзу ССР тав. **Окхуджава М. С.**

6.

Пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 13-га кастрычніка г. г. зацьверджаецца у калегію народнага камісарыяту рабоча-сялянскай інспекцыі Саюзу ССР тав. **Ветошкін М. К.**

7.

Пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 13-га кастрычніка г. г. уводзіцца у калегію народнага камісарыяту харчаваньня Саюзу ССР тав. **Сырамалотаў Ф. Ф.**

*Сэкратар СНК Союзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

Распублікавана у 202 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 8 верасьня 1923 г.

# ПАСТАНОВЫ І ЗАГАДЫ

# Савету Працы і Абароны

## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

### 210. Аб прэміраваньні экспорту хлапкова-папяровых тканін у Пэрсію.

У мэтах разьвіцьця экспорту хлапкова-папяровых тканін у Пэрсію, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Па прад'яўленьні экспарцёрам пасьведчаньняў аб вывазу пасьля 15 верасьня 1923 г. хлапкова-папяровых тканін у Пэрсію, адлічаць у выглядзе прэміі з належных выплаце экспарцёрам падаткаў і збораў 4 капейкі, з кажнага вывезенага закардон аршыну хлапкова-папяровых тканін.

2. Прэмія паказаная у арт. 1 залічаецца у лік належных аплаце экспарцёрам падаткаў і збораў па прад'яўленьні дакументаў, пасьведчаючых вываз.

3. Экспарцёр дзеля адтрыманьня прэміяў, паказаных у арт. 1, абавязуецца даць купцу скідку у памеры ня меньш 8 капеяк з установленай цаны аршыну тканіны.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

### 211. Аб удзешаўленьне пагрузачна—разгрузачнай працы на чыгуначным транспарту

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Устанавіць норму выдатку на аплату працы грузчыкаў па нагрузцы і выгрузцы чыгуначных грузаў, уключаючы налічэньні на запрацаваную плату і выдатак па прэміраваньню пагрузачна—разгрузачных опэрацыяў, у памеры 0,66 таварных капеяк па бюджэтнаму індэксу або 1,08 кап. у чырвоным вылічэньні за адзін пуд перавезенага грузу.

2. Устанавіць долю рэшты выдаткаў НКШЗ па пагрузачна—разгрузачным опэрацыям у памеры 0,62 кап. у чырвоным вылічэньні за пуд перавезенага грузу.

3. Даручыць НКШЗ разам з ЦК саюзу транспартных рабочых выпрацаваць новы тарыф зьдзельных расцэнак па нагрузачна—разгрузачным опэрацыям, з такім разлікам, каб 1,08 кап. у чырвоным вылічэньні пакрылі усе выдаткі на рабочую сілу, уключаючы прэміраваньне пагрузачна—разгрузачных опэрацыяў і налічэньні на запрацаваную плату грузчыкаў.

4. Агульную цыфру нагрузачна—разгрузачнага збору з усіх чыгуначных грузаў, апрача экспортнага хлеба, дзеля каторага установлена асобая норма, зьнізіць замест дзеючай цяпер нормы у 2,8 кап. з пуду да 1,7 кап. з пуду у чырвоным вылічэньні, пастаўляючы далейшае зьніжэньні у залежнасьць ад абсьледаваньня пагрузачна—разгрузачнай працы у месцах буйнага грузавароту дзеля высьвятленьня арганізацыйных і тэхнічна-гаспадарчых умоваў вытворчасьці гэтай працы па параўнаваньню з даваеннымі, і намеціць мерапрыемствы да павялічэньня вытворчасьці працы грузчыкаў і уваразьня магчымасьці далейшага зьніжэньня пагрузачна—разгрузачнага збору.

Вынікі падаць дзярж. плянавай камісіі дзеля падачы свайго заключэньня у СПА.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

### 212. Правілы распрацоўкі маючых золата вучасткаў прыватнымі прыіскацялямі у Далёка-Усходняй краіне.

1. Дзейнасьць гэтых правілаў пашыраецца на ўсе вольныя дзеля прыватнага залатога промыслу землі, апрача раёнаў, паказаных у раскладзе зацьверджаным Далёка-Усходнім Рэвалюцыйным Камітэтам і падлягаючым да распублікаваньня.

2. Прыватныя прыіскацялі на руднае золата дапушчаюцца у ва ўсіх золатапрамысловых раёнах.

Калі у раёнах, дазволеных дзеля працы прыватных прыіскацяляў або у заяўленых кім-небудзь мясцовась-

цях ужо ёсьць маючыя золата адводы, дык прыватныя прыіскацялі ня могуць займаць вучасткаў у межах гэтых адводаў.

3. Прыватныя прыіскацялі могуць быць грамадзяне Саюзу ССР не маладзей 18 гадоў.

Усе прыватныя прыіскацялі могуць рабіць распрацоўку толькі сваей асабістай працай. Наймаць забараняецца.

4. Кожны прыватны прыіскацяль павінен, распачынаючы працу, адтрымаць ад начальніка горнага вокругу або яго агэнта, або мясцовае міліцыі, асабісты спытак, які даецца дарэмна, на права распрацоўкі, які мае у сабе гэтыя правілы, адрыўныя лісты з надрукаваным тэкстам абвестак аб заяўцы і заяваў аб спыненьні распрацоўкі і дзеля запісу знайдзенага золата.

5. Кожнаму прыіскацялю дазваляецца перш мясцовай міліцыяй, а пасьля адводу вучастка—адводзячым пляцы заняць пад распрацоўку вучастак зямлі вялічынею да 250 кв. саж. а) чатырохкантовай формы ня больш 16 саж. па кожнаму боку б) любое формы—па лагу або рэчцы ня больш 25 саж. падаужыні, а па шырыні ня звыш 10 саж. Каб заняць гэты вучастак трэба паставіць па усіх кутках вучастка слупы і выкапаць каля кожнага слупа ў адлегласьці на адзін сажань у бок сваіх слупаў ямы.

На кожным слупе павінен быць зроблен надпіс, у якім паказана імя і прозьвішча прыіскацяля, які заняў вучастак, нумар асабістага спытку (згодна арт. 4) і часу (год, месяц, чысло) заняцьця вучастку.

Увага: Першаму знайшоўшаму золата даецца права узяць чатыры вучасткі у аднэй рачной даліне. Усе ж пасьля падаўшыя заявы ня могуць займаць больш аднаго вучастку у райёне.

6. Асобы, заняўшыя так, як сказана у папярэднім артыкулу, вучастак на зямлі, памянёнай у арт. 2, здабываюць з таго часу, як зоймуць, права на распрацоўку гэтага вучастку аж да выпрацоўкі яго. Дзеля таго, каб ня траціць гэтага права, заняўшая вучастак асоба не павінна перарываць па здабычы на тэрмін звыш аднаго месяцу у летні час; зімою гэты тэрмін можа быць працягнен да 5-ці месяцаў. Пры перарыву працы на большы тэрмін губляецца права распрацоўкі гэтага вучастку на падставе гэтых правілаў.

Увага: Перарыў у працы з-за кліматычных і метэраолёгічных варункаў, якія перашкаджаюць працы (навадненьне і інш.) ня спыняе правоў прыватнага прыіскацяля на распрацоўку занятага ім вучастку.

7. Прыватныя прыіскацялі звальняюцца ад усіх падаткаў, ад платы з дзесяціны за нетры і ад адлічэньня долі з дабычы, за выключэньнем аплаты рэгістрацыйнага асабістага збору за права займацца горным промыслам.

8. Як распрацоўваць, даецца на выбар працуючым з захаваньнем правілаў забясьпечнасьці і выканьнем указаньняў горнага надзору і правілаў, надрукаваных у імяным спытку, які выдаецца прыіскацялям.

9. Прыватныя прыіскацялі могуць дарма карыстацца паваленым або які расьце на занятых імі вучастках лесам, з тым, аднака каб высякаемы лес ішоў толькі на патрэбы прадпрыемства прыватнага прыіскацяля і не вывожваўся за межы яго вучастку.

10. Аб парубцы казённага лесу пры правядзеньні шляхаў прыватныя прыіскацялі у працягу году павінны паведаміць лясны нагляд. У тым разе, калі правілы забясьпекі будуць сыстэматычна нарушвацца і мясцовасьць ня прыбірацца пасьля заканчаньня працы прыватны прыіскацель лішаецца права на якія б ні было у далейшым заяўкі у ва усім райёне.

11. У працягу паўгода прыватны прыіскацель павінен падаць начальніку горнага вокругу непасрэдна або праз міліцыю адрыўны ліст на дадзеным яму асабістым спытку, запісаўшы веды аб мейсцы нахаджэньня вучастку і яго вялічыні і інш, гэтыя веды начальнік вокругу запісвае у асобную кнігу і дазначае, калі магчыма, заняты вучастак на карце.

12. У тым разе, як праца на вучастку будзе зусім скончана, павіны быць прыбраны абгаражваючыя вучастак слупы або счэсаны зробленыя на слупах выразкі або надпісы, выкапаныя каля слупоў ямы—засыпаны, аб сканчэньні працы павінен быць паведамлен мясцовы горны нагляд праз падачу яму вышэй памянёным чынам належачага адрыўнога лісту з асабістага спытку з заяваю аб сканчэньні працы.

13. За непадачу у працягу паўгода заявачнае абвесткі прыватны прыіскацель губляе права на адтрыманьне адводу і на далейшую працу на гэтым вучастку.

14. Пасьля адтрыманьня некалькіх абвестак аб заняцьці вучасткаў у аднэй мясцовасьці або блізкіх адна каля аднае мясцовасьцях, начальнік горнага вокругу адпраўляе адводчыка, які, прыбыўшы на месца, устанаўляе точна месцанахаджэньня распрацоўваемых плошчаў, наносіць на карту слупы, абгарожваючыя вучасткі і устанаўляе вялічыню іх.

Памянёная праца робіцца адводчыкам дарэмна, але патрэбная пры гэтым рабочая сіла павінна быць дадзена асобамі, распрацоўваючымі вучасткі.

Выдаткі на камандзероўкі адводчыка бяруцца на кошт казны.

15. Адводчык, зрабіўшы на месцы межавыя акты на заняты прыватна прыіскацелем вучастак, зацьверджае яго у карыстаньне асобы, яго распрацоўваючай. Уладару зацьверджанага вучастку, па яго жаданьню, дарэмна даюцца адводчыкам копіі межавых актаў.

16. Спрэчкі адносна правоў на маючыя золата вучасткі, як паміж прыватна прыіскацелямі, гэтак і паміж імі золотапрамыслоўцамі, працуючымі на агульных падставах, разьвязваюцца у судзе або пры згодзе на тое з двух бакоў начальнікам горнага вокругу.

17. Праца невялічкіх прыватнапрыіскацеляў не спыняе магчымасьці працы у тых жа мясцовасьцях золотапрамыслоўцаў на агульных падставах.

18. Заявы аб выдачы дазволаў на заняцьце вучасткаў дзеля распрацоўкі, гэтак сама і самая выдача гэтых дазволаў і другіх дакумэнтаў, якія маюць адносіны да працы прыватнапрыіскацеляў, аплаце гэрбавым зборам не падлягаюць.

*Нам. Стартыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г
Масква—Крэмль.

**213. Інструкцыя аб парадку канчатковых разьлічэньняў НКШЗ з нафтасіндыкатам і гандлевымі органамі дзяржаўнае каменна-вуглявое прамысловасьці за каменна вуглявое і нафтавае топліва і нафтапродукты, дастаўленыя за час з 1-га кастрычніка 1922 г. да 1-га жніўня 1923 г.**

§ 1. Цана на каменна-вуглёвае і нафтавае топліва прымаецца у вялічыні, устаноўліваемай СПА арт. 5-м дэкрэту СНК РСФСР ад 21-га сакавіка 1922 г. „Аб зьняцьці дзяржаўнае топліўнае прамысловасьці з дзяржаўнага снабжэньня і аб аплаце топліва“ (Зб. Уз. РСФРС 1922 г., арт. 291) і выказваецца у тав. капейках. Цэнамі коксу, кавальскага вугля, мазуту дзеля смазваньня і іншых нафтапродуктаў лічацца гандлёвыя цэны нафтасіндыката і гандлёвых органаў дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці.

§ 2. Установы нафтасіндыкату і гандлёвыя органы дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці, якія вядуць разьлічэньні з органамі НКШЗ падаюць рахункі на адпушчанае топліва і нафтапродукты водлуг сартоў, падцьверджаныя прыёмачна-здатачнымі актамі або дублікатамі чыгуначных накладных і кон:саментамі (подліныя дублікаты могуць быць заменены пералічэньнем іх з паказаньнем часткаў, з якіх складаецца дублікат, пасьведчаных або начальнікам станцыі адправіўшай або прадстаўнікам РСІ па месту нахаджэньня установаў нафтасіндыкату і гандлёвых органаў дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці).

Гэткія рахункі, снабжоныя памянёнымі дакументамі, падлягаюць акцэнтацыі спажыўцамі у 10-ці днёвы тэрмін пасьля падачы.

Калі у 10-ці днёвы тэрмін ня будзе адтрымана акцэнту або падмацаванага пратэсту па рахунку з боку спажыўца, рахунак лічыцца акцэнтованым і з'яўляецца бясспрэчным дакумэнтам. Акцэнтацыя рахункаў ня выключае права спажыўцаў падаваць у далейшым пратэнзыі аб пераплатах.

§ 3. Мясцовыя установы транспарту у свой чарод падаюць рахункі установам нафтасіндыкату і гандлёвым органам дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці, падцьверджаныя сапраўднымі чэкамі, выдадзенымі у аплату паслугаў транспарту за перавоз і іншыя паслугі, зробленыя гэтаю установаю. Сапраўныя чэкі могуць быць заменены пералічэньнем іх з паказаньнем часткаў, з якіх складаецца чэк, пасьведчаны належнымі райённымі гандлёвымі органамі дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці або нафтасіндыкату або прадстаўнікам РСІ.

Гэткія рахункі падлягаюць акцэнтацыі установамі нафтасіндыкату і гандлёвых органаў дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці у 10-ці днёвы тэрмін пасьля падачы.

Калі у 10-ці днёвы тэрмін ня будзе адтрымана акцэнту або падмацаванага пратэсту па рахунку з боку установаў нафтасіндыкату і гандлёвых органаў дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці рахунак лічыцца акцэнтованым і з'яўляецца бязспрэчным дакумэнтам. Акцэнтацыя рахункаў ня выключае правоў нафтасіндыкату і гандлёвых органаў дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці у далейшым падаваць пратэнзыі аб'пераборах і па актам аб недахвату або псуцьцю грузаў.

§ 4. Канчатковае разьлічэньне за фактычна дастаўленае топліва і мазут дзеля смазваньня робіцца у таварных рублёх, пры гэтым унесены аванс і іншыя выплаты залічваюцца гэтак сама у таварных рублёх.

Прад'угаданые у § 3 гэтае інструкцыі сустрэчныя рахункі установаў НКШЗ залічваюцца так сама у таварных рублёх, дзеля чаго вылічанае у савецкіх грашах зьлічво прэтэнзыяў ад установаў НКШЗ пералічваецца у таварныя рублі па каэфіцыэнту, які павінен быць ровен сярэдняму арытмэтычнаму агульных таварных індэксаў дзяржпляну на 11-ае і 21-ае чысло месяцу, за які робіцца разьлік.

Выведзенае у таварных рублях сальдо выплачваецца належным бокам, пералічваючы таварныя рублі у савецкія знакі па агульна-таварнаму індэксу дзяржпляну, адпавядаючаму дню разьлічэньня.

§ 5. З 1-га траўня 1923 г. дакумэнтам, сьведчачым аб дастаўцы топліва і нафтапродуктаў НКШЗ лічыцца а) акт аб прыёмцы-здачы, уключаючы у сябе наступнае 1) дату, 2) мейсца, 3) назва установы здаючай, прозьвішча здаючай асобы, 4) назва установы адтрымліваючай і прозьвішча адтрымліваючага, 5) якое топліва ці нафтапродукт, 6) колькасьць па гатункам, 7) якім чынам вызначалася вага нафтапрадуктаў, 8) пры здачы франко-вагон паказваецца № дублікату з чыгункі і № вагону і 9) належныя подпісы; б) калі ня было адтрымліваючага іменны дублікат накладное з чыгункі, коносамэнт або роўназначны дакумэнт, у якім адзначаецца гатунак.

Абавязкі нафтасіндыкату і гандлёвых установаў дзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці аб дастаўцы топліву нафтапрадуктаў НКШЗ і адпаведнасьць за іх псуцьцё, не дахват, трату і не своечасовую дастаўку грузаў канчаюцца з мамэнту утварэньня актаў аб прыёмцы-здачы, а пры адсутнасьці прымаючых з мамэнту утварэньня на чыгунцы накладных, коносаментаў або роўназначных дакумэнтаў, з выключэньнем выпадкаў, калі умоўлена іншае адумысловымі умовамі бакоў.

§ 7. Разьлік за усялякае топліва і мазут дзеля змазваньня за час з 1-га кастрычніка да 1-га сьнежня 1922 г., а за вугаль усіх басэйнаў, акрамя Данецкага, да 1-га студзеня 1923 г. робіцца у савецкіх знаках і знойдзенае на кожны месяц сальдо пералічваецца у таварные рублі па сярэдняму месячнаму агульна-таварнаму індэксу дзяржапляну за належны месяц. За рэшту месяцаў да 1-га жніўня 1923 г. разьлічэньне робіцца, згодна § 4 інструкцыі.

Зьлічвы сальдо у таварных рублёх за час да 1-га жніўня 1923 г. выплачваюцца на месяцы, залежна ад іх вылічэньня па агульна-таварнаму індэксу дзяржпляну на дзень выплаты.

§ 8. Аб становішчы разьлікаў на 1-ае верасьня 1923 г. (па разьлікам да 1-га жніўня) мясцовасьці абавязаны паведаміць у цэнтр не пазьней 10-га верасьня 1923 г.

§ 9. У тым разе калі будуцьня выплачаны або не даплачаны на месцах паказаныя у § 7 зьлічвы да 1-га верасьня 1923 г. цэнтровыя установы НКШЗ і ВСНГ абавязаны зьліквідаваць узаемную запазычанасьць на 1-ае жніўня 1923 г. у працягу верасьня месяца таго самага году. У тым разе, калі гэтак зроблена ня будзе, разьлічэньне гэтае утвараецца праз НКРС з ліку зьлічваў, належачых дэбітору.

§ 10. Спрэчныя пытаньні на конт разьлічэньняў НКШЗ з нафтасіндыкатам і гандлёвымі установамдзяржаўнае каменна-вуглёвае прамысловасьці разьвязваюцца парахункавамі камісіямі, прад'угаданамі пастановай СПА ад 1-га сьнежня 1922 г.

§ 11. Гэтая інструкцыя аб канчатковых разьлічэньнях ужываецца на колькі іншае не прад'угадана дзеючымі умовамі і згодамі бакоў.

§ 12. Наўперад да выданьня новага палажэньня аб разьлічэньнях дзейнасьць гэтае інструкцыі пашыраецца на канчатковыя разьлікі за дастаўкі і перавозкі пасьля 1-га жніўня 1923 г., па колькі іншае ня будзе прад'угадана адумысловымі умовамі і згодамі бакоў.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 214. Аб выразу установленай дзеля Туркрэспублікі акцызнай стаўкі на соль у чырвоным вылічэньні.

На падставе пастановы цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 19 жніўня 1923 году („Изв." ЦВК Саюзу ССР; УЦВК ад 24 жніўня 1923 году), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Выказаць установленую дзеля Туркрэспублікі пастановай СНК РСФСР ад 23 студзеня 1923 году цьвёрдую акцызную стаўку на соль у чырвоным вылічэньні у памеры—адінаццаці капеяк з пуду або сямі дзясятых капейкі з кілаграму.

2. Рабіць спагнаньне акцызу з солі у Туркрэспубліцы чырвонцамі або грашовымі знакамі па курсу дня выплаты.

3. Даручыць Народнаму Камісарыяту Грашовых Справаў Саюзу ССР зьдзейсьніць гэту пастанову па тэлеграфу.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 215. Аб пэтварэньні фондавых біржаў у Чыце і Уладзівастоку у фондовыя адзелы пры таварных біржах.

Дзеля з'інačaньня пастановы Савету Працы і Абароны ад 30-га ліпеня г. г. аб утварэньні фондавых біржаў у м. Чыце і м. Уладзівастоку Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Фондавую біржу у м. Чыце пэтварыць у фондавы аддзел пры Чыцінскай таварнай біржы.

2. Па адчыненьні у м. Уладзівастоку таварнай біржы дазволіць НКГС Саюзу ССР па згодзе з камунутргандлем Саюзу ССР пэтварыць Уладзівастоцкую фондавую біржу у фондавы аддзел пры Уладзівастоцкай таварнай біржы.

3. Даць НКГС Саюзу ССР па згодзе з камунутргандлем Саюзу ССР пры пэтварэньні Чыцінскай і Уладзівастоцкай фондавых біржаў у фондавыя аддзелы пры таварных біржах унясьці у іх статуты вызываемыя гэтым пэтварэньнем належныя з'інačaньні.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 216. Аб значаньні сумаў, пераплачаных за нэфтапрадукты.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанавіў:**

Сумы, пераплачаныя пры выплаце акцызу за нэфтапрадукты, паступаюць у залік пры далейшых выпусках нэфтапрадуктаў з складаў, з пераводам паказаных сумаў у залатое вылічэньне па курсу котыравальнай камісіі у дзень выплаты.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 217. Аб дазволу украінскай коопэрацыі мець сваіх прадстаўнікоў пры замежных канторах цэнтрасаюзу і устанаўленьні прынцыпаў улагоджанай з цэнтрасаюзам працы па імпарту і экспарту.

У мэтах разьвіцьця працы украінскіх коопэратыўных цэнтраў па вывазу прадуктаў сельскай гаспадаркі і сыр'я закардон, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць украінскай коопэрацыі, у асобе аб'яднанага органу „Укркооп" мець пры замежных канторах цэнтрасаюзу сваіх прадстаўнікаў, улагоджваючых сваю працу па імпарту і экспарту украінскай коопэрацыі з органамі цэнтрасаюза закардонам.

Прынцыпы улагоджанай працы устанаўляюцца адумысловым згаджэньнем паміж коопэратыўнымі цэнтрамі (цэнтрасаюзам і вукасьпілкай).

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

28 верасьня 1923 г.
Масква—Крэмль.

## 218. Палажэньне аб Расійскім Рэгістру.

(Дзеля разьвіцьця пастановы УЦВК ад 20 чэрвеня 1923 г. „Изв. ВЦИК" ад 27 чэрвеня 1923 г.).

### Разьдзел І. Агульныя рысы.

1. Расійскі рэгістр загадвае клясыфікацыяй і рэгістраваньнем марскіх, вазёрных і рачных суднаў, знаходзячыхся за ведамам або загадам дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў або прыватных арганізацыяў і асобаў, за выключэньнем суднаў вайсковага флёту, а гэтак сама іх абмерам і тэхнічным наглядам за становішчам іх карпусоў, катлоў і мэханізмаў адносна бясьпечнасьці дзеля плаваньня.

2, Абавязковай клясыфікацыі падлягаюць: марскія гандлёвыя судны на 20 рэг. тонаў валавое умясьцімасьці і вышэй, рачныя судны—самарушачыя у 50 індыкатарных сілаў і вышэй, не самарушачыя у 15 і больш мэтраў даўжныёю;

б) Абавязковаму вызначэньню найменьшае высаты надводнага борту і грузавое пад'ёмнасьці падлягаюць: марскія гандлевыя судны на 20 рэг. тонаў валавое умясьцімасьці і вышэй, рачныя судны самарушачыя у 50 індыкатарных сілаў і вышэй, не самарушачыя у 15 і болей мэтраў даўжынёю;

в) Абавязковаму вызначэньню ўмясьцімасьці (абмеру) падлягаюць: марскія гандлёвыя судны на 20 рэг. тонаў валавое ўмясьцімасьці і вышэй;

г) Абавязковаму тэхнічнаму нагляду адносна бясьпечнасьці дзеля плаваньня падлягаюць усе судны, знарады і іншыя плаваючыя прылады, прыназначаныя дзеля прамысловых мэтаў і дзеля перавозкі грузаў або пасажыраў, пры чым адносна маламерных суднаў, па вызначэньню расійскага рэгістру, можа быць дапушчан прасьцейшы мэтад тэхнічнага нагляду.

Увага 1. Дзейнасьць пунктаў б, в, г, гэтага артыкулу пашыраецца на замежныя судны, якія даведваюцца у порты Саюзу ССР, калі яны ня маюць сэртыфікатаў, выдадзеных належнымі установамі, прызнаваемымі Саюзам ССР на падставе істнуючых канвэнцыяў. У выпадках, прад'угадных дзеючымі правіламі дзеля агляданьня марскіх гандлёвых і служэбных суднаў, па патрабаваньню начальніка порту, судно можа быць абгледжана, у парадку тэхнічнага нагляду, незалежна ад наліччапамянёных сэртыфікатаў.

2. Сьпісы замежных установаў, дакумэнты якіх прызнаюцца сапраўднымі, на падставе утвораных канвэнцыяў і згодаў, што год апублікоўваюцца расійскім рэгістрам дзеля агульнай вядомкі,

3. Усе дзеі, памянёныя у п. п. а, б, в, гэтага артыкулу, могуць быць, па заяве ўладароў суднаў, пашыраны і на невялічкія судны.

3. Час дзеля ажыцьцяўленьня абавязковай клясыфікацыі і рэгістраваньня плаваючых суднаў прызначаецца камітэтам расійскага рэгістру па раёнам плаваньня і па тыпам суднаў.

4. Расійскаму рэгістру даецца права дзеля непасрэдных зносінаў аб тым, што належыць да яго веданьня, з цэнтральнымі мясцовымі установамі Саюзу ССР, а гэтак сама, у межах істнуючых законаў і з замежнымі клясыфікацыённымі таварыствамі а гэтак сама права дзеля згодаў з імі у пытаньнях на конт клясыфікацыі, рэгістраваньня і ацэнкі суднаў.

Расійскаму рэгістру даецца права дзеля удзелу ва усіх працах па утварэньню паміжнародных канвэнцыяў і згодаў, датычных веданьня расійскага рэгістру.

5. Расійскі рэгістр не нясе матар'яльнае адпаведнасьці за якія б там ні былі страты, якія могуць здарыцца пры аварыях клясыфікаваных суднаў і па якім-небудзь іншым прычынам.

6. Расійскі рэгістр складаецца з: а) камітэту, б) цэнтральнага бюро, в) мясцовых бюро.

**Разьдзел II. Камітэт расійскага рэгістру.**

7. Камітэт расійскага рэгістру складаецца з старшыні, якого назначае СНК і 6 сяброў—прадстаўнікоў ад ведамстваў: 2 ад НКШЗ, 1 ад НК ЗГ, 1 ад Н КПрацы, 1 ад ВСНГ і 1 ад дзярж. страхав., зацьверджваемых СНК з кандыдатаў, пададзеных ведамствамі.

Увага: Да старшыні і сяброў камітэту назначаюцца у парадку, указаным гэтым артыкулам, іх намесьнікі,

8. Пастановаю камітэту расійскага рэгістру або па загаду яго старшыні, могуць быць запрошаны на пасяджэньні камітэту, з дарадчым голасам, прадстаўнікі усіх як цэнтральных, гэтак і мясцовых органаў усіх ведамстваў і установаў, зацікаўленых у разьглядваемых камітэтам пытаньнях, а гэтак сама сьвядомыя асобы па розных пытаньнях.

9. Старшыня і сябры камітэту расійскага рэгістру і іх заўсягдатнія намесьнікі маюць права дармавога праезду па усім чыгункам і вадзяным шляхам на падставах, устаноўленых дзеля вышэйшых супрацоўнікаў НКШЗ.

10. На камітэт расійскага рэгістру ускладаецца:

а) зацьверджаньне правілаў пабудоўкі, клясыфікацыі, рэгістраваньня суднаў і правілаў выпрабаваньня матар'ялаў дзеля пабудоўкі суднаў, рэчаў дзеля абсталяваньня і снабжэньня суднаў;

б) зацьверджаньне правілаў дзеля тэхнічнага нагляду за становішчам карпусоў, катлоў і мэханізмаў і ўсяго абсталяваньня і снабжэньня эксплёатуемых суднаў адносна бясьпечнасьці іх дзеля плаваньня;

в) азначэньне катэгорыі суднаў, з якіх бярэцца плата за агляданьне, абмеры і іншую працу, а гэтак сама устанаўленьне вялічыні гэтае платы.

Увага: Пастановы, памянёныя у гэтым пункту падлягаюць зацьверджаньню СПА.

г) зацьверджаньне клясаў суднаў і выдача клясіфікацыйных сэртыфікатаў;

д) зацьверджаньне дзеля занясеньня у каштарыс НКШЗ каштарысных намераў на наступны і гадавое справаздачы за мінулы год;

е) загадваньне крэдытамі расійскага рэгістру у межах зацьверджаных каштарысаў;

ж) зацьверджаньне зьдзельных аплатаў кансультантам і супрацоўнікам расійскага рэгістру за навуковую і тэхнічную працу і прэміяў супрацоўнікам бюро за спаўненьне адумысловых заданьняў і тэрміновых прац;

з) зносіны з цэнтральнымі установамі Саюзу ССР і з закардоннымі клясыфікацыйнымі таварыствамі;

и) склікваньне з'ездаў на конт таго, як увясьці расійскі рэгістр;

к) непасрэднае кіраўніцтва усімі дзеямі цэнтральнига бюро і агульны нагляд за працаю мясцовых бюро расійскага рэгістру;

л) разьгляданьне скаргаў ўласьнікаў суднаў і другіх асобаў і установаў на конт клясыфікацыі, тэхнічнага нагляду, ацэнкі суднаў і г. д.

м) арбітраж і экспэртыза па просьбам зацікаўленых бакоў і за іх кошт на конт пытаньняў, датычных аварыяў і канструктыўных вадаў суднаў.

11. Пасяджэньні камітэту скліквае старшыня камітэту залежна ад патрэбы, але не радзей як два разы на месяц.

12. Пасяджэньні камітэту лічуцца адбыўшыміся калі прысутнічалі старшыня або яго намесьнікі і ня меней чатырох прадстаўнікоў ад ведамстваў,

13. Пастановы камітэту выносяцца простай большасьцю галасоў. У выпадку пратэсту каго-небудзь з народных камісараў, прадстаўнікі якіх ёсьць у камітэту, супроць пастановы камітэту, пытаньне перадаецц у СПА. Калі пратэст зроблен сябрам камітэту на самым пасяджэньні камітэту і падтрыман народным камісарам на паперы на імя старшыні у працягу 96 гадзін пасьля пасяджэньня, выкананьне пастановы затрымоўваецца да разьгляданьня пытаньня у СПА.

14. Пастановы камітэту расійскага рэгістру перасылаюцца яго сябрам, а гэтак сама зацікаўленым ведамствам і арганызацыям.

15. Пастановы камітэту расійскага рэгістру, выданыя у межах яго кампэтэнцыі, абавязковы дзеля усіх ведамстваў, установаў і асобаў.

### Разьдзел III. Цэнтральнае бюро расійскага рэгістру.

16. Цэнтральнае бюро расійскага рэгістру з'яўляецца выканаўчым органам камітэту па ўсім справам расійскага рэгістру.

17. На цэнтральнае бюро расійскага рэгістру ускладаецца:

а) папярэдняя распрацоўка пытаньняў, належачых да ведама камітэту, ажыцьцяўленьне яго пастановаў і выданьне іх пасьля зацьверджаньня камітэтам расійскага рэгістру;

б) разгляданьне, у парадку нагляду, пратаколаў мясцовых бюро расійскага рэгістру на конт абмераў суднаў і азначэньня найменьшае вышыні надводнага борту і грузавае пад'ёмнасьці;

в) непасрэднае кіраўніцтва усю дзейнасьцю мясцовых бюро расійскага рэгістру па усім справам, належачым да іх ведама, інспэктыраваньне гэтае дзейнасьці праз камандыраваньне на месца належных асобаў;

г) назіраньне праз мясцовыя бюро расійскага рэгістру або праз знарок назначаных інспэктароў і інжынэраў за будоўляю і капітальнаю рэмантыроўкаю суднаў, падлеглых клясыфікацыі, і удзел у випрабаваньнях іх пры прыёмцы;

д) удзел у тэхнічным высьледаваньні аварыяў і няшчасных выпадкаў на суднах;

е) вядзеньне рэгістрацыйных сьпісаў суднаў і выданьне што год сьпісаў клясыфікаваных суднаў;

ж) складаньне каштарысаў і справаздачаў на конт утрыманьня усіх органаў расійскаго рэгістру і праводжваньне іх праз належныя інстанцыі;

з) распрацоўка, згодна з ведамствамі, арганызацыямі і прыватнымі асобамі і за іх кошт тэхнічных пытаньняў на конт пабудоўлі і эксплёатацыі суднаў, спэцыфікацыяў і заданьняў дзеля пабудоўлі новых суднаў і тэхнічная экспэртыза у пытаньнях будоўлі і рэмонту суднаў;

и) загадваньне усімі грашовымі і гаспадарчымі справамі расійскага рэгістру.

18. Цэнтральнае бюро расійскага рэгістру, знаходзячыся пад поўным кіраўніцтвам і апекаю (кантролем) камітэту расійскага рэгістру, састаіць пры НКШЗ як самастойнае упраўленьне.

19. Цэнтральнае бюро расійскага рэгістру складаецца з рачнага і марскога аддзелаў і кіраўніцтва справамі расійскага рэгістру (апошняе як дапамагаючы аддзел).

20. На чале цэнтральнага бюро расійскага рэгістру знаходзіцца начальнік бюро, які адзін з'яўляецца яго кіраўніком.

21. Начальнік бюро назначаецца і звальняецца камітэтам расейскага рэгістру і праводзіцца прыказам па НКШЗ.

22. Начальніку бюро даецца права запрашаць, з зацьверджаньнем старшыні камітэту расейскага рэгістру, асобаў сьвядомых і аўтарытэтных у пытаньнях, належачых да ведама расейскага рэгістру дзеля спаўненьня точна вызначанай на кожны раз працы і дзеля вытварэньня разных экспэртызаў.

23. Начальнікі аддзелаў і інспэктары цэнтральнага быро назначаюцца і звальняюцца камітэтам расейскага рэгістру пасьля падачы начальніка бюро і праводзяцца прыказам па НКШЗ. Іншыя супрацоўнікі цэнтральнага бюро, у тым ліку часовыя інспэктары і назіраючыя інжынэры (арт. 17, п. г.) назначаюцца і звальняюцца начальнікам бюро.

### Разьдзел IV. Мясцовыя бюро расійскага рэгістру.

24. Мясцовыя бюро з'яўляюцца органамі расійскага рэгістру дзеля ажыцьцяўленьня на месцах непасрэднага тэхнічнага нагляду за становішчам суднаў адноспа бясьпэкі іх дзеля плаваньня і дзеля утварэньня абмераў і агляданьня суднаў, звязаных з выдачаю ім мерыцельных пасьведчаньняў, пасьведчаньняў аб грузавой марцы і сэртыфікатаў на кляс.

Увага. Адносіны паміж мясцовымі бюро расійскага рэгістру і тэхнічнай інспэкцыяй НК Працы і санітарной інспэкцыяй вызначаюцца асобнымі правіламі, выдаваемымі камітэтам расійскага рэгістру згодна з належнымі наркаматамі.

25. На мясцовыя бюро расійскага рэгістру ускладаецца:

а) утварэньне усіх агляданьняў суднаў, зьвязаных з вызначэньнем іх клясаў і раёна плаваньня і выдача актаў гэтых агляданьняў праз цэнтральнае бюро расійскага рэгістру на зацьверджаньне камітэту;

б) утварэньне абмераў і агляданьне суднаў дзеля таго, каб узнаць іх ўмясьцімасьць, найменьшую вышыню надворнага борту і грузавую пад'ёмнасьць выдача на судны «мерыцельных пасьведчаньняў» і «пасьведчаньняў аб грузавой марцы» і абзначэньне грузовых марак на бортах суднаў;

в) тэхнічны нагляд за становішчам карпусоў, катлоў, мэханізмаў і усяго абсталяваньня і снабжэньня эксплёатуемых суднаў, праз утварэньне устаноўленых правіламі агляданьняў і выдача належных пасьведчаньняў.

Увага. Утварэньне непасрэднага нагляду за становішчам катлоў ускладаецца на інжынэраў з складу мясцовых бюро або на асобных інспэктараў, пэрсанальна адпаведных за назіраньне за катламі.

г) Назіраньне па оаручэньню цэнтральнага бюро за будоўляю і капітальным рэмонтам суднаў, належачых да клясыфікацыі, і удзел у выпрабаваньнях іх дзеля прыёмкі;

д) удзел, па заявам дзяржаўных установаў і прад-

прыемстваў або прыватных арганызацыяў і асобаў, за іх кошт, у абцэнцы суднаў і выдача належных дакумэнтаў;

е) удзел у тэхнічным высьледаваньні аварыяў і няшчасных выпадкаў на суднах, а гэтак сама складаньне па заявам дзярж. страхаваньня і за яго кошт, каштарысаў на папраўку порчаў пры аварiях;

ж) уддзел, па заявам уласьнікаў суднаў і за іх кошт і вызначэньні патрэбнага рэмонту і у нагляданьні за ім адносна ня клясавых і не падлеглых клясыфікаваньню суднаў і тэхнічная экспертыза у пытаньнях будоўлі і рэмонту суднаў;

з) вядзеньне рэгістрацыйных сьпісаў суднаў свайго райёну;

і) выкананьне адумысловых заданьняў цэтральнага бюро расійскага рэгістру водлуг пытаньняў, увaходзячых у кола веданьня расійскаго рэгістру;

к) складаньне каштарысаў і справаздачаў і падача іх у цэнтральнае бюро расійскага рэгістру;

л) загадваньне фінансавымі і гаспадарчымі пытаньнямі бюро і загад крэдытамі у межах зацьверджаных каштарысаў.

26. Мясцовыя бюро расійскаго рэгістру пад'уласны непасрэдна цэнтральному бюро расійскага рэгістру.

27. Мясцовыя бюро расійскага рэгістру утвараюцца водлуг патрэбы у марскіх і рачных гандлёвых портах Саюзу ССР пастановамі камітэту расійскага рэгістру, прычым дзеля кожнага бюро вызначаецца точны район яго дзейнасьці і разрад, у залежнасьці ад вялічыні і важнасьці гэтага райёну.

28. Па свайму складу мясцовыя бюро разьдзяляюцца на тры разрады. Дзеля абслугоўваньня партоў і агентаў з невялікім зваротам, пастановаю камітэту могуць назначацца адумысловыя інспэктары.

29. Начале мясцовых бюро расійскага рэгістру стаяць начальнікі бюро, якія зьўляюцца іх адзіна асабовымі кіраўнікамі.

30. Начальнікі мясцовых бюро назначаюцца камітэтам расійскага рэгістру і праводзяцца прыказам па НКШЗ. Інжынэры мясцовых бюро расійскага рэгістру, інспектары особных партоў і агэнтстваў і інспэктары па котланагляду, назначаюцца і звальняюцца начальнікам цэнтральнага бюро расійскага рэгістру.

Іншыя супрацоўнікі мясцовых бюро назначаюцца і звальняюцца начальнікамі гэтых бюро.

31. Разьмяркаваньне інжынэраў і тэхнікаў мясцовых бюро расійскаго рэгістру па асобным партам і агэнствам райёну робіцца начальнікамі гэтых бюро, з зацьверджаньня цэнтральнага бюро.

Увага. Тэхнічны нагляд за становішчам маламерных судоў у адносінах бясьпечнасьці іх плаваньня можа быць даручан па згодзе начальнікаў мясцовых бюро расійскага рэгістру з начальнікамі гандлёвых партоў і судаходнага рачнога нагляду, асобным супрацоўнікам партовых упраўленьняў або судаходнага нагляду з аплатай іх з крэдытаў бюро.

32. Палажэньні аб правах і абавязках супрацоўнікаў мясцовых бюро расійскага рэгістру і асобных інспэктароў, а таксама інструкцыя аб парадку вядзеньня імі справаў і г. п. выпрацоўваюцца у межах гэтага палажэньня цэнтральнам бюро расійскага рэгістру і зацьверджаюцца начальнікам гэтага бюро.

33. Мясцовыя бюро расійскага рэгістру, а у выпадку патрэбы, з дазволу начальніка цэнтральнага бюро, інспэктары і інжынэры асобных партоў і агэнстваў маюць пячатку з выяўленьнем дзяржаўнага гэрбу і сваей назвы.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

2 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

## 219. Аб арганізацыі савету дзеля пабудоўкі Сямірэчанскай чыгункі.

Дзеля зінaчaньня пастановаў ад 15 сьнежня 1922 г. і 20 ліпеня 1923 г., Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Утварыць пры НКШЗ савет дзеля пабудоўкі Сямірэчанскай чыгункі у складзе—ад НКШЗ—т. Дяржынскага, Нам. т. Ягада і ад Туркрэспублікі—т. А. А. Казакова.

2. Савету даручаецца арганізацыя пастаянага кіраўніцтва дзеля кіраваньня працай на месцы, нагляд за ходам працы і максымальнае скарыстаньне усіх магчымых сродкаў у мэтах найхутчэйшага дабудаваньня шляху.

3. Пабудоўка Сямірэчанскага шляху фінансыруецца водлуг каштарысу ВСНГ.

4. Праца і арганізацыя яе вядзецца саветам пад непасрэдным кіраваньнем тав. Дзяржынскага пры дапамозе апарату, знаходзячагася у яго загадзе.

5. ВСНГ па галоўнаму упраўленьню дзяржаўн. пабудовак мае права кантро і люрэвізіі працы.

6. Усе асобы, камандзіраваныя ВСНГ на будаваньне Сямірэчанскай чыгункі, пасьля таго, як скончуць працу, йдуць назад у загад ВСНГ, калі яны ня будуць адкамандзіраваны раней гэтага часу.

7. Савету даручаецца прыняць усе меры, каб закончыць пабудоўку Сямірэчанскай чыгункі да ст Пішнек не пазьней канца будаўнічага сэзону 1924 году.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

5 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

Рэспублікавана у № 233 „Известий“ ЦВК Союза ССР ад 12 кастрычніка 1923 г.

---

## 220. Аб прэдоўжаньні да 1 студзеня 1924 году тэрміну працы цэнтральнай зьмешанай камісіі па ўзвароту спажывецкае коопэрацыі аднятых у яе, у парадку нацыяналізацыі, прадпрыемстваў і промыслаў.

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Тэрмін працы цэнтральнай зьмешанай камісіі па ўзвароту спажывецкае коопэрацыі яднятых у яе, у парадку нацыяналізацыі, прадпрыемстваў і промыслаў

(Весьнік ЦВК, СНК і СПА Союзу ССР № 1, арт. 42). прадоўжыць да 1-га студзеня 1924 году.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

5 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**221.** **Аб парадку рэалізацыі паступаючых по адзінаму с.-г. падатку прадуктаў, якія ня могуць быць зьверненымі на выкананьне пляну скарыстаньня харчовых рэсурсаў.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Даць народнаму камісарыяту харчаваньня па згодзе з НКГС і НКЗГ права рэалізацыі на ўнутраным рынку або перадаваць належным організацыям дзеля рэалізацыі на замежным рынку тыя паступаючыя па адзінаму с.-г. падатку прадукты, якія ня могуць быць зьвернены на выкананьне пляну скарыстаньня харчовых рэсурсаў з ўнясеньнем усіх выручаных сумаў поўнасьцю у прыбытак казны.

Даручыць народнаму камісарыяту харчаваньня па згодзе з НКГС выпрацаваць інструкцыю па ужываньню гэтае пастановы і занясьці яе на зацьверджаньне Савету Працы і Абароны.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

12 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**222.** **Аб зьнічтажэньні аб'яднанага кіраўніцтва Екацярыненскай і Данецкіх чыгунак і утварэньні на паказаных дарогах асобных кіраўніцтваў.**

У належнасьці з арт. 2-м палажэньня аб кіраўніцтвах чыгунак ад 26 ліпеня 1923 году (Весьнік ЦВК, СНК і СПА Саюзу ССР № 3, арт. 78), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зьнічтожыць аб'яднанае кіраўніцтва Екацярыненскай і Данецкіх чыгунак і утварыць на паказаных дарогах асобныя кіраўніцтвы.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

12 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.

---

**223.** **Аб парадку абкладаньня рачных дзяржаўных параходцтваў прамысловым падаткам.**

Дзеля таго, што дзяржаўныя рачныя параходцтвы пераходзяць на камэрцыйнае разьлічэньне, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. Прыцягнуць прадпрыемствы рачнога дзярж. параходцтва да плацяжу прамысловага падатку з 1 кастрычніка 1923 г., з захаваньнем правілаў, выкладзеных у ніжэйнаступных артыкулах.

2. На прадпрыемствы рачных параходцтваў да заканчаньня навігацыі 1923 г. павінны быць выбраны прамысловыя патэнты з выплатай паловы іх вартасьці водлуг дзеючых ставак.

3. Да параўнаўчага сбору рачныя параходцтвы прыцягваюцца водлуг месца знаходжаньня іх кіраўніцтваў у парадку часовых правілаў, зацьверджаных УЦВК і СНК 18 студзеня 1923 г. (Зб. Уз. РСФСР 1923 г., арт, 89, дадатак 7-ы) належна памерам іх зваротаў за першае паўгодзьдзе 1923—24 бюджэтнага году.

4. Вялічыня параўнаўчага збору дзеля рачных дзярж. параходцтваў устанаўліваецца у 0,5% з звароту.

5. НКГС даручаецца па згодзе з НКШЗ, выдаць асобную інструкцыю па ўжываньню дзяржаўнага прамысловага падатку да рачных дзяржаўных параходцтваў з учотам асаблівасьцяў рачнога транспарту.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. І. Рыкаў.**

*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

12 кастрычніка 1923 г.
Масква—Крэмль.
Распубликавана у № 242 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 23 кастрычніка 1923 г.

---

Главлит № 14596 Тираж 5.000 экз.

„Мосполиграф“—20-я типография „Красный Пролетарий“, Пименовская, 1/16.

# ВЫДАНЬНІ ЦВК САЮЗУ ССР

## НА РАСЕЙСКАЙ, УКРАІНСКАЙ, БЕЛАРУСКАЙ, ГРУЗІНСКАЙ, АРМЯНСКАЙ і ТЮРКА-ТАТАРСКАЙ МОВАХ.

1. Першы з‘езд саветаў Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача (*з дыаграмамі і статыстычнымі дόвадамі*).
2. Пастановы 1 з‘езду саветаў Саюзу ССР.
3. І сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
4. II сэсія ЦВК Саюзу ССР. Стэнаграфічная справаздача і пастановы (*разам і асобна*).
5. Весьнік рабочага і сялянскага Ўраду Саюзу ССР (*двухтыднёвік*). *№№ 1, 2, 3, 4, 5 і 6.*

**АДРАС ВЫДАВЕЦТВА:**
**МАСКВА — КРЭМЛЬ — ЦВК САЮЗУ ССР.**
ТЭЛЕФОНЫ: Крэмль, дадатк. 1-27 і гарад. 19-92.

**ПЕРАДПЛАТА ПРЫМАЕЦЦА**
**ГАЛОЎНАЙ КАНТОРАЙ „ВЕСЬНІКУ ЎРАДУ“.**
МАСКВА, Цьвярская, 48.
(ГАЛОЎНАЯ КАНТОРА „ИЗВЕСТИЙ“ ЦВК САЮЗУ ССР і ЎЦВК).